**№№3–4**
**(3542–3543)**

6 студзеня 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*


# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**ФОТААБВІНАВАЧАННЕ**

# 20 гадоў прастаяў і яшчэ 20 стаяць будзе?

*Гэтаму даўгабуду на скрыжаванні мінскіх вуліц Акадэмічнай і Платонава сёлета спаўняецца 20 гадоў. Хто і калі ўдыхне ў яго жыццё— невядома.*

Будаўніцтва корпуса стаматалагічнага факультэта Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі распачалося ў 1992 годзе. Планавалася, што гэта будзе сучасны васьміпавярховы будынак. Але яшчэ ў 1996-м будоўля, што называецца, "стала". Прычына — адсутнасць фінансавання. За чатыры гады, што вялося будаўніцтва, паспелі ўзвесці толькі тры паверхі.

Некалькі гадоў таму "Белдзяржпраект" праводзіў даследаванне канструкцый і нават рыхтаваў карэкціроўку праектна-каштарыснай дакументацыі. Аднак ахвочых заняцца аднаўленнем даўгабуда на скрыжаванні вуліц Акадэмічнай і Платонава так і не знайшлося.

Пейзаж, скажам шчыра, сёння тут выглядае не вельмі прывабна. Лічы, у самым цэнтры сталіцы стаіць недабудаваны аб'ект, ззяючы бетоннымі "рэбрамі". Будынак знаходзіцца ў тым жа стане, у якім яго пакінулі прыкладна 15—16 гадоў таму. На тэрыторыю даўгабуда зараз можа трапіць любы ахвочы — вароты адчынены, аховы на тэрыторыі няма. Будынак стаіць без даху, без вокан, без дзвярэй, а вакол яго поўна смецця. Бачна таксама, што за гады "прастою" яго неаднаразова наведвалі аматары "графіці", якія пакінулі на сценах запісы малазразумелага сэнсу...

Тым часам, як высветліла "Народная Воля", будынак на скрыжаванні Акадэмічнай і Платонава знаходзіцца на балансе Упраўлення аховы здароўя Мінскага абласнога выканаўчага камітэта. Іншымі словамі — мае гаспадара.

Званок старшыні камітэта па архітэктуры і будаўніцтве Мінаблвыканкама **Сяргею Молчану** святло на сітуацыю вакол даўгабуда не праліў. *"Мне няма чаго вам сказаць пра лёс гэтага даўгабуда,* — сказаў ён. — *Гэтай будоўлі і сапраўды 20 гадоў, аб'ект знаходзіцца на балансе Упраўлення аховы здароўя Мінаблвыканкама. Планавалася будаўніцтва стаматалагічнага факультэта Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі. Ведаю толькі, што даўгабуд быццам бы збіраліся прадаваць..."*

Першы намеснік начальніка Упраўлення аховы здароўя Мінаблвыканкама **Сяргей Ганчароў** у размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" адзначыў: *"Па шчырасці, канкрэтнага рашэння пра лёс гэтага даўгабуда на сённяшні дзень у нас няма. Мы вялі перамовы з шэрагам інвестараў, але ахвочых укладаць грошы ў гэты аб'ект не знайшлі. Зараз невядома, што будзе: ці паспрабуем прадаць гэты даўгабуд з аўкцыёну, ці працягнем пошук інвестараў. Але, яшчэ раз паўтару, канкрэтнага афіцыйнага рашэння пра лёс будынка дагэтуль няма".*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**
**Фота аўтара.**



# Дай Бог, каб у надыходзячым годзе мы памяталі, куды нам ісці

*(З Раждэственскага паслання Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі)*

Узлюбленыя архіпастыры, пастыры, манахі і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы!

Гасподзь наш Ісус Хрыстос, адзін са Святой Троіцы, цяпер злучаецца з чалавечай прыродай. Той, пра Каго марылі народы і думалі мудрацы, аб Кім употай тужыць сэрца кожнага чалавека, сёння яўляе Сваё Аблічча.

Ці магчыма зразумець або апісаць чалавечым словам гэтую *вялікую набожнасці таямніцу* (1 Цім. 3: 16)? Свяшчэннае Пісанне, а ўслед за ім песні айцоў узвышаюць розум да сузірання цуду Богаўцялеснення: "Прыйдзіце, верныя, уздымемся боганатхнёна і ўбачым сыходжанне Бога з вышыні, у Віфлееме нам паказанае".

**Прыйдзі і ўбач** — вось шлях хрысціянскага багаслоўя! Так кажа апостал Філіп Нафанаілу, які сумняваецца: "***ідзі і паглядзі***", *"мы знайшлі Таго, пра Каго пісалі Маісей у законе і прарокі, Ісуса, Сына Іосіфавага, з Назарэта"* (Ін.1:46,45).

Пастухі, якія бачылі "*шматлікае воінства нябеснае, што ўсхваляла Госпада*" (Лк. 2, 13), таксама звяртаюцца адзін да аднаго: ***"Пойдзем*** у *Віфлеем і* ***паглядзім*** *тое, што адбылося, пра што Гасподзь абвясціў нам*" (Лк. 2: 15).

На жаль, далёка не заўсёды мы слухаем гэты заклік. У адрозненне ад біблейскіх пастухоў, якія накіраваліся да Божай калыскі, мы застаёмся *вартаўнікамі* цэлага *статку* (Лк. 2: 8) жыццёвых клопатаў. Вобразам рэчаў, пра якія мы дзень і ноч клапоцімся, выступаюць авечкі. Нам часта здаецца, што мы іх пасвім, гэта значыць, што мы з'яўляемся гаспадарамі становішча, кантралюем нашы схільнасці і ў любы момант можам ад іх адарвацца. Але злахітрасць свету заключаецца ў тым, што ён зацягвае нас.

І калі мы чуем заклік: "***Прыйдзі!***", то не маем сіл адарвацца ад зямнога і накіраваць свае сэрцы да горняга. Гаворка ідзе не толькі пра ўвагу да Бога. Як часта гэты заклік зыходзіць ад людзей вакол нас: малыя дзеці клічуць бацькоў, нямоглыя старцы звяртаюцца да сваіх дзяцей; муж жадае ўбачыць увагу жонкі, а жонка шукае апоры ў мужу; на працы, сярод суседзяў, у транспарце і на вуліцы мы заўсёды застаёмся людзьмі, якія шукаюць дабра, разумення, любові адзін ад аднаго. Само існаванне чалавека — гэта своеасаблівы заклік да бліжняга: **прыйдзі,** раздзялі са мною радасць і суцеш мяне ў горы.

Гэта заклік, на які можа адгукнуцца толькі асоба. Мала прыйсці! Неабходна асаблівае ўменне **бачыць**: бачыць у нязначных супадзеннях — знаменне, у жабраку — вобраз Божы, у злачынцы — стомленую грахом душу.

Дарагія браты і сёстры! Гэты заклік звернуты да нас з вамі. Але першым на яго адклікаецца Бог, нараджэнне Якога на зямлі ёсць нараджэнне Богачалавечай Асобы.

Для нас сёння звыклымі атрыбутамі свята сталі яслі, жывёлы, пастухі і мудрацы вакол Богадзіцяткі. Але часам у нас усё ж узнікае пытанне: чаму Бог нарадзіўся ў такіх цяжкіх, неспрыяльных умовах? Няўжо Ён не мог зрабіць больш урачыстай падзею, якая паўплывала на ўвесь ход чалавечай гісторыі?

Відавочна, што такою была задума Бога, Які пажадаў перамяніць святлом Сваёй Асобы самыя цяжкія бакі нашага жыцця.



Сын Божы **прыйшоў** і стаў Сынам Чалавечым, паколькі **бачыў**, што нават у граху чалавек застаецца вобразам і падабенствам Тварца. Дзеля нас Ён як бы прыкрывае ззянне Свайго Бажаства.

Нараджэнне Хрыстова — гэта крок найвялікшага даверу да чалавечага роду.

Веру, што Бацькаўшчына наша багатая людзьмі, гатовымі *"служыць Госпаду са страхам і радавацца Яму з трымценнем"* (Пс. 2: 11). У 992 годзе, тысяча і дваццаць гадоў таму, у часы святога роўнаапостальнага князя Уладзіміра, "пачалі ставіць у некаторыя гарады епіскапаў: у Ноўгарад, у Полацк, у Валынскую зямлю". Адначасова з гэтым святы князь паслаў сваіх родных сыноў у іх удзелы з наказам ва ўсіх іх справах "з епіскапамі раіцца".

Гэтае аднадумства духоўнай і свецкай улады на землях Беларусі стала асабліва запатрабаваным 400 гадоў таму, калі наша Айчына перажывала цяжкія часы ў сувязі з увядзеннем уніі. У тыя далёкія гады Гасподзь вылучыў з роду князёў Слуцкіх Алелькавічаў святую праведную Сафію Слуцкую. Гэтая святая жанчына з пакорнасцю прымала ўсе абставіны жыцця, але пры гэтым сэрца яе было аддадзена Госпаду.

Сёлета таксама адзначаецца 400 гадоў з часу заснавання Свята-Петра-Паўлаўскага сабора ў Мінску. Закрыты ў багаборніцкія часы і адроджаны ў наш час Свята-Петра-Паўлаўскі сабор выразна сведчыць пра духоўную і гістарычную жыццёвасць Праваслаўя, адданасць нашага народа традыцыйным хрысціянскім каштоўнасцям.

Узлюбленыя браты і сёстры! Святыя айцы яшчэ ў старажытнасці навучалі: Бог учалавечыўся дзеля таго, каб чалавек абожыўся! Біццё сэрца — гэта стук Божы ў дзверы душы. Бог шукае магчымасці дапамагчы нам. Але Ён патрабуе: "**Прыйдзі і ўбач** Мяне! Будзь моцным, таму што Я напоўню сілай тваю слабасць! Будзь радасным, таму што Я выцер твае слёзы! Будзь просты ў сваёй мудрасці, таму што мудрасць валхвоў і прастата пастухоў цяпер аб'ядналіся ў радасці Богасузірання!"

Дай Бог, каб у надыходзячым годзе мы памяталі, куды нам **ісці**. Каб наш шлях асвятляўся святлом Каляднай зоркі, якая дапамагае бачыць цуд там, дзе зайздрасць і злосць Ірада намагаюцца вынішчыць чалавечы, асабовы пачатак.

Са святам, дарагія браты і сёстры! З Раждаством Хрыстовым! Няхай захавае Гасподзь Сваёю благадаццю ўсё добрае, што нараджаецца ў нашых сэрцах, каб у гэты дзень мы змаглі ад шчодрасці сэрца вынесці насустрач адзін аднаму мір, радасць і любоў! Амінь!

**ЧТО НАС ЖДЕТ...**

# Выезд на встречную полосу может стоить водителю миллион рублей

*С 1 апреля в Беларуси почти в три раза увеличится размер базовой величины — с нынешних 35 тысяч до 100 тысяч рублей. Следовательно, во столько же вырастут штрафы, размер госпошлины и другие выплаты, которые, как известно, в нашей стране привязаны к базовой величине.*

***Что и насколько вырастет с 1 апреля (в бел. рублях)***

| | СЕЙЧАС | С 1 АПРЕЛЯ |
|---|---|---|
| **Госпошлины и налоги:** | | |
| замена паспорта | 17.500 | 50.000 |
| оформление завещания у нотариуса | 35.000 | 100.000 |
| заявление в загс | 35.000 | 100.000 |
| оформление лицензии на открытие бизнеса | 280.000 | 800.000 |
| налог за сдачу одной комнаты в месяц | 35.000 | 100.000 |
| Охрана квартиры в месяц | 17.500 | 50.000 |
| **Штрафы:** | | |
| за безбилетный проезд в общественном транспорте | 7.000 | 20.000 |
| за распитие пива в общественном месте | до 280.000 | до 800.000 |
| за распитие алкогольных напитков в общественном месте или появление в общественном месте в пьяном виде | до 280.000 | до 800.000 |
| занятие проституцией | 210.000—700.000 | 600.000—2.000.000 |
| занятие проституцией (повторное задержание) | 1.050.000—1.750.000 | 3.000.000—5.000.000 |
| за нецензурную брань в общественном месте | 70.000—1.050.000 | 200.000—3.000.000 |
| за разжигание костров в запрещенных местах | до 700.000 | до 2.000.000 |
| **Штрафы за нарушения правил дорожного движения:** | | |
| превышение скорости от 20км/ч до 30 км/ч | 35.000—70.000 | 100.000—200.000 |
| превышение скорости на 30 км/ч и более | 70.000—350.000 | 200.000—1.000.000 |
| превышение скорости от 20 км/ч до 30 км/ч и свыше 30 км/ч повторно в течение года | 140.000—525.000 | 400.000—1.500.000 |
| нарушение правил обгона либо выезд на полосу встречного движения в нарушение ПДД | 70.000—350.000 | 200.000—1.000.000 |
| нарушение правил маневрирования либо проезда перекрестков | 35.000—175.000 | 100.000—500.000 |
| не пройденный в установленный срок без уважительной причины техосмотр | до 70.000 | до 200.000 |
| отсутствие договора обязательного страхования гражданской ответственности | 175.000 | 500.000 |
| отсутствие договора обязательного страхования гражданской ответственности в случае ДТП | 350.000 | 1.000.000 |
| оставление водителем места ДТП, участником которого он является | 175.000—875.000 | 500.000—2.500.000 |
| управление авто в состоянии алкогольного или наркотического опьянения | 525.000—1.225.000 (с лишением прав на 3 года) | 1.500.000—3.500.000 (с лишением прав на 3 года) |
| нарушение правил остановки или стоянки авто | до 35.000 | до 100.000 |
| за разговоры по мобильному телефону | до 70.000 | до 200.000 |
| за не пристегнутый ремень (в том числе и перевозка пассажиров, не пристегнутых ремнем безопасности) | до 35.000 | до 100.000 |

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

**КСТАТИ**

## Бизнес-союзы требуют пересмотреть решение о повышении базовой величины до 100 тысяч

*Бизнес-сообщество просит правительство пересмотреть решение о трехкратном повышении с 1 апреля базовой величины с 35 до 100 тысяч. Просьба содержится в письме, которое направили на имя премьер-министра Михаила Мясниковича Республиканская конфедерация предпринимательства и Минский столичный союз предпринимателей и работодателей.*

Как отмечается в письме, *"решение было принято без достаточного экономического обоснования, без консультаций с деловым сообществом (ассоциациями, союзами), что противоречит пункту 9.4 директивы №4".*

По мнению представителей деловых кругов, трехкратное повышение базовой ставки *"отрицательно скажется не только на предпринимателях, но и на всем населении в целом, поскольку размер базовой величины фигурирует в десятках нормативных актов".*

Трехкратное увеличение ставки базовой величины автоматически приведет к росту в три раза стоимости арендной платы, поскольку арендные платежи привязаны к базовой. Это, в свою очередь, автоматически повлечет за собой увеличение стоимости товаров и услуг, поскольку затраты лягут на себестоимость.

## Дэфіцыту генералаў не будзе

*Старшыні Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь* ***Валерыю Вакульчыку*** *прысвоена спецыяльнае званне генерал-маёра юстыцыі.*

Адпаведны ўказ Аляксандр Лукашэнка падпісаў 5 студзеня.

Валерый Паўлавіч Вакульчык нарадзіўся 19 чэрвеня 1964 года ў Брэсцкай вобласці. У 1985 годзе скончыў Харкаўскае Гвардзейскае вышэйшае танкавае каманднае вучылішча. У 1992 годзе — Вышэйшыя курсы ваеннай контрразведкі КДБ СССР. У 2011 годзе — Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

З 1985-га па 1991 год праходзіў ваенную службу ва Узброеных Сілах. З 1991-га па 2008 год — у органах КДБ.

З мая 2008 года — начальнік Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Старшынёй Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь быў прызначаны 24 кастрычніка мінулага года.

## Віцязя вызвалілі ад пасады, якую ён займаў амаль 15 гадоў

*Аляксандр Лукашэнка вызваліў Пятра Віцязя ад пасады першага намесніка старшыні Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.*

Адпаведны ўказ падпісаны 5 студзеня.

Пётр Віцязь — доктар тэхнічных навук, акадэмік НАН Беларусі і Акадэміі ваенных навук Расійскай Федэрацыі, а таксама Міжнароднай Акадэміі Еўразіі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Савета Міністраў СССР, заслужаны дзеяч навукі Беларусі. У яго працоўнай біяграфіі ёсць не толькі навуковыя дасягненні. Віцязь займаў кіруючыя пасады. У 1992 годзе ён кіраваў НДІ парашковай металургіі, у 1997 годзе быў абраны віцэ-прэзідэнтам НАН Беларусі, з 2004 года — першы намеснік старшыні Прэзідыума НАН Беларусі.

Беларускім журналістам Пётр Віцязь запомніўся перш за ўсё сваімі аповедамі пра дасягненні беларускай навукі. Менавіта Віцязь праводзіў літаральна ўсе прэс-канферэнцыі, прымеркаваныя да Дня навукі і іншых дат і мерапрыемстваў. У тым, што з'явіўся ўказ аб яго вызваленні ад пасады, мабыць, нічога дзіўнага няма. У жніўні мінулага года Пятру Віцязю споўнілася 75 гадоў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

**АКТУАЛИИ**

*Светлана КАЛИНКИНА*



# Кураж

**В Беларуси вновь без всякой причины случился праздник. Шумно, ярко и с размахом проходит очередной хоккейный "Рождественский турнир". В какую сумму обойдется это ледовое шоу престарелых спортсменов, сказать никто не может, поскольку основные счета, как выясняется, будут оплачены по факту. Но уже озвучен маленький штрих к итоговой смете, позволяющий оценить масштаб гуляний. Только на украшение Дворца спорта понадобилось 90 миллионов рублей... Не поскупились!..**

**Государственные СМИ в восторге, новости о ходе хоккейных баталий забили все телевизионные эфиры. Такое ощущение, что кто-то и вправду верит, будто страна в эти дни застыла в ожидании очередной шайбы от какого-нибудь давно ушедшего на пенсию спортсмена или искренне радуется за труженика госслужбы, имеющего так много свободного времени, что его вполне хватает на серьезные занятия спортом.**

**Как же быстро эти люди, вскормленные белорусской деревней, оторвались от народа! Как быстро перестали уважать народ, из которого вышли, и просто считаться с ним!**

**Мы прожили год тяжелейшего кризиса, все обеднели, у многих (кто набрал кредитов) оказались неподъемные долги, тысячи семей просто похоронили надежду хоть когда-нибудь построить квартиру... Немало людей, которые не могут позволить себе покупку нормальных витаминов и лекарств, мерзнут в очередях за дешевым молоком и хлебом, килограмм мандаринов, купленных на Новый год, делят на много дней как величайшее лакомство и драгоценность... А президент со товарищи, как ни в чем не бывало, играет в хоккей. Гостей из разных стран назвали и принимаем побогатому. Ну кто поверит, что в стране кризис и режим экономии на всем, если таких денег не жалко на матчи каких-то ветеранов-любителей?**

**Впрочем, хоккейный праздник на глазах людей, стремительно продвинувшихся от бедности к нищете, еще можно было стерпеть, если бы и многое другое не пошло в нашей стране по-дурному. Вспомните, как в прошлом году Генеральный прокурор снял главврача лидской больницы. Приехала в Лиду комиссия и увидела, что больные лежат прямо в коридорах, палаты переполнены, плесень, грибок, гнилые окна, протекающие потолки... Нашли виновного — главврача. Но разве от него все зависит? Разве он может построить в Лиде новую больницу? Разве он давал команду строить в городе не больницу, а Ледовый дворец? У врачей, учителей, пенсионеров, живущих в Лиде, кто-нибудь вообще спрашивал, в чем они больше нуждаются — в дорогостоящем катке или в простенькой, но сухой и чистенькой больнице с достаточным количеством палат?**

**Когда в Барановичах возводили Ледовый дворец, кто-нибудь заикнулся, что гораздо важнее закупить новую технику для местного онкоцентра? Устроили грандиозное строительство, а теперь не знают, как и кого в этот дворец загонять. В то же время более 20 лет в этих самых Барановичах используется один и тот же аппарат для лучевой терапии. И совершенно естественно, что в конце концов этот "дедушка-труженик" сломался. Вот уже больше месяца онкологические больные в Барановичах не могут получить элементарную помощь. Их отправляют или в Брест, или в Пинск, но ведь там оборудование тоже не простаивало, там и для своих пациентов к этим "гамма-терапевтическим машинам" очередь.**

**Только вдумайтесь: в целом регионе людям, больным раком, наша медицина не может обеспечить важнейшего — лучевой терапии!.. Это значит, что многих оставляют просто умирать, что для многих проведенные операции окажутся бесполезными. Однако судьба этих людей волнует только их родственников, местных врачей и немногих независимых журналистов.**

**Зато "Рождественский турнир" государство вновь проводит с восторгом и размахом. Один из организаторов соревнований — Президентский спортивный клуб — не скромничая, сообщил, что эти любительские состязания — "уникальное действо, не имеющее аналогов на планете". И ведь действительно уникальное и не имеющее аналогов. Потому что мало осталось в мире государств, где власть может куражиться в таких дорогих забавах.**

**НУ І НУ!**

## Як двоечнікі трапляюць у ВНУ?

Ганебны антырэкорд мінулагодняй уступнай кампаніі ў ВНУ агучыў намеснік міністра адукацыі **Аляксандр Жук.**

Студэнтам Мінскага дзяржаўнага экалагічнага ўніверсітэта імя Сахарава па спецыяльнасці "Энергаэфектыўныя тэхналогіі і энергетычны менеджмент" здолеў стаць абітурыент з сярэднім балам атэстата 3,2 бала. Па прызнанні намесніка міністра, яго школьныя веды па трэці прадметаў былі ацэнены на двойкі, у тым ліку фізіка, хімія, матэматыка, руская мова. Раней лічылася б, што такі "кадр" увогуле не скончыў школу. А зараз не проста скончыў, але і атрымлівае вышэйшую адукацыю.

Зараз міністэрствам падрыхтавана новая рэдакцыя Правіл паступлення ў ВНУ, якая заклікана выправіць падобныя хібы. На даны момант дакумент прайшоў усе ўзгадненні і знаходзіцца на экспертызе ў Міністэрстве юстыцыі.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

АБРАКАДАБРА

# Што будзе з партыяй?

*У гэтым годзе — парламенцкія выбары. Як я заўважаю, ізноў заварушыліся партыі. Адзін партыйны кіраўнік ужо нават сказаў, што ў гэтых выбарах трэба ўдзельнічаць. Хто гэты "партайгеноссэ", мяркую, вы здагадаліся — Анатоль Ляўковіч. Але ці ёсць у яго на самай справе партыя? Каго прадстаўляе Ляўковіч і ад чыйго імя робіць заявы?*

**Пётр Верашчакін, Мінск.**

Пасля атрымання гэтага ліста "Народная Воля" ў чарговы раз паспрабавала разабрацца ў сітуацыі вакол **Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада)**.

Дзейнасць партыі зараз фактычна паралізавана. Ці існуе партыя ўвогуле і як працуе, шчыра кажучы, зразумець складана. Але адзначым, што на сайце Міністэрства юстыцыі Беларусі ў Рэестры палітычных партый Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) па-ранейшаму застаецца. І старшынёй пазначаны менавіта Анатоль Ляўковіч. Але ўнутры самой арганізацыі застаюцца два лагеры, якія не прызнаюць існаванне адзін аднаго.

Намінальна Анатоль Ляўковіч сёння з'яўляецца старшынёй аргкамітэта па правядзенні з'езда БСДП (Грамада). Праўда, з'езд Анатоль Іосіфавіч праводзіць пакуль не збіраецца, бо, па яго ж уласным прызнанні, "*у яго няма на тое рэсурсаў*".

"Народная Воля" звязалася з Анатолем Ляўковічам, каб зразумець, што ўсё ж такі адбываецца ўнутры партыі? Калі і якім чынам будзе пераадолены крызіс? Дыялог выйшаў, скажам шчыра, дзіўны.

*Анатоль ЛЯЎКОВІЧ :*

## «... А ў мяне рэсурсаў няма»



**— Анатоль Іосіфавіч, на якім свеце зараз партыя і ці існуе яна ўвогуле?**

— Партыя існуе, адзінае, што ў партыі існуюць праблемы. Наўрад ці ідэйныя. Хутчэй — арганізацыйныя, выкліканыя шэрагам прычын. Гэта, я б сказаў, праблема ўсёй беларускай апазіцыі — калі некаторыя нашы дзеячы ствараюць рухі, а потым набіраюць людзей... Адкуль? З партый! Гэта закранула і Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю (Грамада).

**— Калі я правільна зразумеў, то партыі ўжо як бы і няма, ёсць аргкамітэт па правядзенні з'езда, каб яе наноў стварыць?**

— Ну што значыць партыі няма?! Партыя ёсць. У сакавіку партыі будзе 21 год. Яшчэ раз кажу: у нас ёсць арганізацыйныя праблемы.

**— Калі партыя ёсць, можа, падкажаце, колькі зараз у ёй сябраў?**

*(Спадар Ляўковіч працягвае адказваць, але і блізка не па сутнасці пытання. Пра тое, што ён у палітыцы з таго часу, калі Сяргей Калякін яшчэ быў першым сакратаром Першамайскага райкама партыі г.Мінска, што "ўсе лідары, якія зараз у Мінску сядзяць", спрабавалі яго таптаць, што гэта нейкая бацыла... Што "адсутнасць дэмакратычнага разумення працэсаў паралізуе нашу апазіцыю...").*

**— Анатоль Іосіфавіч, я ж пра іншае пытаўся... Колькі ў партыі зараз сябраў? Хто вас падтрымлівае? Хто стаіць за вамі ў партыі?**

— За мной стаяць усе! Акрамя 11 чалавек, якіх мы з партыі выключылі...

*(Заўважце, на канкрэтнае пытанне, колькі сябраў налічваецца ў партыі, так і не адказаў.)*

**— Да якой пары вы будзеце існаваць у стадыі аргкамітэта? Калі вас усе (па вашых словах) падтрымліваюць, праводзьце з'езд і здымайце ўсе пытанні. Я так разумею...**

— Гэта не сутнаснае пытанне. Сутнаснае пытанне вось у чым: нейкі апазіцыянер атрымае гранцік (гэта я назіраю ўжо 20 гадоў) — і ўжо тады пайшоў купляць кагосьці... Зараз апазіцыя ў галечы, таму я магу зразумець гэтых людзей, я на іх нават не сваруся...

*(Зноў, як бачыце, адказ не па сутнасці).*

**— А вы лічыце сябе лідарам партыі?**

— А хто яшчэ можа быць лідарам партыі, калі не я? Я ж яе ствараў з першага дня — 21 год... І сябры партыі па ўсёй Беларусі атрымалі мае рэкамендацыі для ўступлення ў партыю. Хто ж тады лідар? Няўжо Ірына Вештард, якая за 20 гадоў трох чалавек у партыю сабрала, і то — жывыя яны ці не, не вядома.

**— Вы не прызнаяце Ірыну Вештард у якасці старшыні?**

— Я не магу прызнаваць людзей, якія за 20 гадоў прывялі трох чалавек. Дайце мне рэсурс, я за тыдзень праеду па краіне і больш людзей у партыю знайду. Другая справа, што набаламуцілі зараз з нашай партыяй...

Я яшчэ раз паўтараю: партыя як была, так і засталася. Задача аргкамітэта, які я ўзначальваю, правесці з'езд.

**— Калі ён адбудзецца?**

*(Спадар Ляўковіч як быццам і не пачуў маё пытанне і прадоўжыў сваю думку.)*

— Прычым з'езд правесці так, каб захаваць усю партыю. Не толькі захаваць, а рухацца наперад.

**— Дык калі пройдзе з'езд?**

*(Пасля гэтых слоў мой субяседнік усё ж вярнуўся да майго пытання.)*

— Усё пытанне ўпіраецца ў рэсурс. Рэсурсы, якімі валодаюць іншыя апазіцыйныя лідары, робяць кепскае для нашай партыі. А ў мяне рэсурсаў няма. Я не ведаю, каму даюцца тыя рэсурсы...

*Ірына ВЕШТАРД:*

## «Няма такога старшыні, як Ляўковіч»

*Скажам шчыра, погляд Анатоля Ляўковіча на партыйныя праблемы — гэта яго погляд. Ёсць і іншы пункт гледжання. Яго "Народнай Волі" выказала **Ірына Вештард,** якая была абрана старшынёй партыі на з'ездзе 5 чэрвеня мінулага года. Праўда, Міністэрства юстыцыі Беларусі не прызнала вынікі таго з'езда.*

*Тым не менш Ірына Вештард таксама лічыць сябе старшынёй БСДП (Грамада), а Анатоль Ляўковіч як партыец для яе больш проста не існуе.*



— Скажу адразу: Ляўковіч можа шмат чаго вам нагаварыць... Але 5 чэрвеня мінулага года прайшоў з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), на якім старшынёй абралі мяне. Так, вынікі гэтага з'езда не былі прызнаны Міністэрствам юстыцыі. Намі на гэтае рашэнне Мінюста была пададзена скарга ў Вярхоўны суд Беларусі, але яна задаволена не была...

Калі коратка казаць, асноўнай прычынай адмовы стала тое, што ў з'ездзе прымалі ўдзел сябры Цэнтральнага камітэта партыі і Цэнтральнай рэвізійнай камісіі партыі. Справа ў тым, што, згодна з нашым статутам, дэлегатамі з'езда з'яўляюцца сябры партыі, абраныя на абласных канферэнцыях, а таксама сябры ЦК і ЦРК. У той жа час, на думку Мінюста, паўнамоцтвы сябраў ЦК і ЦРК скончыліся яшчэ ў жніўні 2010 года. Іншымі словамі — удзельнічаць не мелі права.

У нашым статуце запісана, што з'езд адбываецца раз у два гады. Апошні з'езд, які папярэднічаў гэтаму, прайшоў у жніўні 2008 года. Значыць, да жніўня 2010-га павінен быў прайсці яшчэ адзін з'езд. А паколькі ён не адбыўся, то паўнамоцтвы Цэнтральнага камітэта і Цэнтральнай рэвізійнай камісіі скончыліся. Чаму ў жніўні 2010 года былым кіраўніцтвам не быў праведзены з'езд, я сказаць не магу.

**— Вы, я так разумею, усё-такі лічыце сябе старшынёй партыі?**

— Як бы вам сказаць...

Калі глядзець з пункту гледжання дэмакратычнай супольнасці, ніхто мне ў вочы (маю на ўвазе сябраў партыі) не сказаў, што я не старшыня. Але Міністэрства вынікі з'езда не прызнала...

Другі момант. Калі сыходзіць з таго, што, на думку Мінюста, у нашай партыі няма Цэнтральнага камітэта і Цэнтральнай рэвізійнай камісіі, то Ляўковіч таксама ніяк не можа лічыцца старшынёй партыі. Ён увогуле не з'яўляецца сябрам партыі. Няма ў нашай партыі Ляўковіча. Няма! Яго выключылі яшчэ ў лютым мінулага года.

**— З таго становішча, якое склалася ў БСДП (Грамада), ёсць выйсце?**

— Пакуль Ляўковіч лямантуе, што ён старшыня нейкага аргкамітэта, мы сур'ёзна рыхтуем новы з'езд. Другі, паўторны, з'езд. Чакаем, што ён пройдзе ў сярэдзіне сакавіка па ўсіх нормах партыйнага статута. Мы прааналізавалі рашэнне Вярхоўнага суда, рашэнне Мінюста і рыхтуем новы з'езд, каб выканаць усе іх патрабаванні. Іншага шляху ў нас няма.

***

Як бачаць сітуацыю вакол БСДП (Грамада) у Міністэрстве юстыцыі Беларусі? Якім, на погляд афіцыйнай структуры, можа быць выйсце з гэтага тупіка?

Гэта трэці блок пытанняў, які нас цікавіў. Але адказаў на гэтыя пытанні пакуль атрымаць не ўдалося. Ва Упраўленні па пытаннях працы некамерцыйных арганізацый, якое і курыруе палітычныя партыі Беларусі, "Народнай Волі" адказалі наступнае: "Звяртайцеся да нас пісьмова". Пісьмовыя пытанні мы ўжо падрыхтавалі, таму будзем чакаць канкрэтных адказаў і абавязкова падзелімся з імі чытачоў. Здзіўляе, аднак, што, нягледзячы на нейкую патавую сітуацыю, апошнім разам Міністэрства юстыцыі Беларусі звяртала ўвагу на БСДП (Грамада) ажно летам, пасля правядзення партыйцамі з'езда 5 чэрвеня.

У паведамленні міністэрства наконт гэтага мерапрыемства гаворыцца:

*"Вывучэнне прадстаўленых дакументаў паказала, што альтэрнатыўны аргкамітэт спяшаючыся, без належнай падрыхтоўкі, з шэрагам грубых парушэнняў Статута БСДП (Грамада) ажыццявіў выбары дэлегатаў і правёў 5 чэрвеня 2011 года паўторны XIII з'езд гэтай палітычнай партыі. Гэты з'езд прызнаны Міністэрствам нелегітымным, а 23 жніўня прынята рашэнне аб дзяржаўнай рэгістрацыі ўнесеных у Статут БСДП (Грамада) змен і дапаўненняў".*

Што будзе з БСДП (Грамада) далей — сказаць цяжка. Здаецца, усе пытанні павінен зняць партыйны з'езд. Вось толькі калі ён пройдзе і ці будзе прызнаны Мінюстам, пытанне адкрытае...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

РЭГІЁНЫ

## Vitebsk падарожнічае ў космасе

*У ЗША зарэгістравалі астэроід, які назвалі ў гонар беларускага горада.*

Астэроід Vitebsk астраноммаматар **Віталь Неўскі** адкрыў яшчэ ў 2009 годзе. Але пастаноўка нябеснага цела на спецыяльны ўлік — справа складаная. Навуковец на працягу некалькіх гадоў павінен сачыць за целам. Калі ўсталявана арбіта і пацверджаны сам факт існавання касмічнага аб'екта, то нарэшце ён атрымае нумар. Астэроід Віталя Неўскага стаў 264061-м у каталогу. У канцы 2011 года была адпраўлена заяўка, і пасяджэннем камісіі Камітэта па наменклатуры малых цел Сонечнай сістэмы астэроіду было прысвоена імя "Віцебск" у гонар абласнога цэнтра Беларусі.

Астэроід "Віцебск" мае папярочны дыяметр каля пяці кіламетраў. У момант адкрыцця ён знаходзіўся на адлегласці 354 мільёны кіламетраў ад Зямлі. Астэроід рухаецца па амаль кругавой арбіце і робіць адзін паварот вакол Сонца за 6,36 года.

Дарэчы, у космасе зараз тры аб'екты, якія маюць назвы беларускіх гарадоў. Гэта астэроіды "Мінск","Брэст" і "Віцебск".

## Дзед ці Баба Мароз?

*22 гады запар галоўным Дзедам Марозам Шчучына была... жанчына!*

Мастацкі кіраўнік раённага Дома культуры **Алена Ушкар** зараз дапамагае сваім маладым калегам, але з вялікай ахвотай узгадвае часы, калі была галоўным персанажам навагодніх святаў.

У Шчучыне Алена Георгіеўна працуе з 1987 года. За гэты час пабывала і вядучай, і Бабай-Ягой, але галоўная яе роля — Дзед Мароз. Некалькі пакаленняў гараджан выраслі на яе зімовых казках.

Былі і смешныя выпадкі. Напрыклад, некалькі маладых людзей на падпітку прапаноўвалі "сагрэцца" і Дзеду Марозу, які весяліў народ у навагоднюю ноч. А адмовіцца Дзед не можа, бо які ж ён пасля гэтага мужык! Сапраўды, ніякі, са смехам узгадвае Алена Ушкар.

## Укалоўся і забыўся

*Амаль паўмільёна чалавек у Гомельскай вобласці зрабілі прышчэпку ад грыпу.*

У Гомельскай вобласці ў кастрычніку-снежні 2011 года вакцынай супраць грыпу былі прышчэплены амаль 436 тысяч чалавек. Гэта больш за 30% ад агульнай колькасці насельніцтва рэгіёна.

Варта адзначыць, што большасць з тых, хто рашыўся на прышчэпку, зрабілі задзел на будучыню. Зараз актыўнасць вострых рэспіраторных інфекцый у Гомельскай вобласці знаходзіцца на нізкім узроўні. Пакуль не было зарэгістравана ніводнага выпадку грыпу.

## Сто Дзядоў у адным пакоі

*Жыхарка Брэста сабрала самую вялікую ў горадзе калекцыю фігурак Дзедаў Марозаў і Снягурак.*



**Ганна Кавалёва** сваю любоў да старых рэчаў ператварыла і ў хобі, і ў прафесію. Збіраючы антыкварыят, асаблівую ўвагу яна надае навагоднім рэчам.

У калекцыі жыхаркі Брэста каля 100 фігурак Дзядоў Марозаў і Снягурак. Самы цікавы экспанат — Дзядуля, які ў свой час аб'ездзіў разам з гаспадарамі ўвесь Савецкі Саюз.

Сваю калекцыю Ганна не хавае ад людзей, а, наадварот, жадае паказаць як мага большай колькасці дзяцей. Калекцыянер упэўнена, што, гледзячы на цацкі з дзяцінства сваіх бабуль і дзядуль, новае пакаленне будзе трымаць сувязь са сваімі каранямі.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

НОВЫЕ ИМЕНА

*Вячеслав ДИАНОВ:*

## «Соблюдаю меры конспирации, но личного охранника у меня нет...»

*Интернет-революционер Вячеслав Дианов стал известен в Беларуси после молчаливых акций протеста — он один из тех, кто занимается проектом "Революция через социальные сети".*

*Уже больше года Дианов живет в Польше.*

*Собирается ли он возвращаться в Беларусь или уже получил статус политбеженца?*

*О чем с ним хотят поговорить представители белорусских спецслужб?*

*И сколько миллионов заработал Дианов на молчаливых акциях протеста?*

*На эти и другие вопросы Вячеслав Дианов ответил "Народной Воле".*



**— На вашей странице в социальной сети "Вконтакте" написано: *"Активный участник протеста 19 декабря. После штурма офиса и последующего преследования со стороны МВД и КГБ 25 декабря вынужден был покинуть страну. Скрывался от преследования со стороны белорусской власти на территории России и Литвы"*. За что вас преследуют? Вы лично громили Дом правительства?**

— Нет, я не громил Дом правительства. А правоохранительные органы меня не любят, наверное, за то, что я неоднократно призывал людей выйти на площадь — и через социальные сети, и на улице на акциях, а перед выборами я был координатором кампании "Гражданин", об акциях которой Лидия Ермошина говорила примерно так: "Такого давления на избирательные комиссии за все время, пока я возглавляю Центризбирком, еще не было".

**— Вы всерьез полагаете, что если вернетесь в Минск, то вас сразу посадят? За что?**

— Да. КГБ раздражает то, что о тех, кто занимается проектом "Революция через социальные сети" (РЧСС), они знают довольно-таки мало. Я неоднократно достаточно критически и прямо высказывался о Лукашенко и о существующей власти. В Беларуси не работают законы, а повод изолировать нежелательного для власти человека всегда найдется.

**— Когда последний раз вы были в Беларуси?**

— 25 декабря 2010 года.

**— В августе в эфире "Еврорадио" вы заявили, что планируете попросить политическое убежище в Польше. Уже получили статус?**

— Простите, не хочу пока отвечать на этот вопрос, чтобы не давать дополнительных сведений белорусским спецслужбам.

**— Правда, что вас отчислили из БНТУ за пропуски и неуспеваемость?**

— Я учился в БГТУ и был отчислен за "пропуски занятий". Как я уже говорил в СМИ, я просто перестал ходить на учебу в тот момент, когда ПОО "Движение Будущего" только начало развиваться. Так как я был (и, кстати, до настоящего момента являюсь) председателем данной организации, у меня было очень много обязанностей, да и ответственность перед людьми была большая. Я не мог подвести...

**— Писали, что вы продолжали обучение по программе Калиновского, но вас отчислили за пропуски. Кстати, вас часто попрекают этим: мол, мальчик без образования, а мнит себя чуть ли не национальным героем... Планируете еще получать образование?**

— Пусть попрекают... Как говорится, легких путей не ищем. Я всегда ставил свою деятельность выше всего. Планирую закончить образование и получить ту специальность, которую выбрал в Беларуси. Последний курс закончить вполне реально.

**— Вы считаете себя политиком?**

— Политики в Беларуси нет. На мой взгляд, в стране нет реальной борьбы за власть. Идут вялотекущие процессы под разными соусами.

**— На ваш взгляд, что лучше: перемены путем революции с крушением зданий, ОМОНом, массовыми митингами или, например, номенклатурный переворот?**

— Главное — это результат, а лучше или хуже — это все относительно. Если революционные процессы привели к демократии, соблюдению прав человека и развитию государства, то любые жертвы не напрасны. Это не я придумал, это историческая данность. Очень часто добыть свободу получалось только при помощи ожесточенной борьбы.

**— Вас называют модератором молчаливых акций протеста. Если не ошибаюсь, последняя такая акция была в сентябре минувшего года, а затем люди просто перестали выходить на площадь. В декабре в одном из своих интервью вы сказали, что в 2012 году планируются новые акции. Не боитесь, что люди не придут?**

— Если все тщательно спланировать, ввести новых лиц, подготовить ребрендинг и, самое главное, использовать новые методы и технологии — все получится, я не сомневаюсь.

**— А мне кажется, что перемены наступят тогда, когда люди сами выйдут на площадь требовать перемен — стихийно и без всяких модераторов...**

— Тогда наш народ точно будет готов к переменам. Но такого я не припомню...

**— Некоторые политики называли ваши акции слабенькими и выдохшимися, а теперь и вовсе предрекают им полное затухание...**

— Да знаю я эту "оппозиционную кухню" отлично, всех там знаю прямо или косвенно! Пусть такие политики скажут об этом публично или глядя мне в глаза. У меня найдется с десяток аргументов, что это не так. Мы же прорабатываем разные варианты, не сидим на месте. Как новые технологии, в том числе политические, могут быть слабенькими? Да и после минувшей осени я стараюсь на "политиков" особо внимания не обращать... Не чувствую с их стороны серьезного подхода — многим из них абы дожить до парламентских выборов...

**— Не считаете ли вы, что своими призывами выйти на площадь вы некоторым образом подставляете не только "неокрепшие умы и сердца", но и карьеры и жизни взрослых людей?**

— Нет, не считаю. Мы призываем действовать осознанно. И все наши информационные каналы направлены на отражение белорусской действительности. На площадь никто никого на аркане не тянет.

**— На встрече с лидерами стран ОДКБ Александр Лукашенко с гордостью заявил, что научился бороться с интернет-революциями...**

— На мой взгляд, это заявление рассчитано на публику. Они даже 10% наших возможностей не видели... К тому же нам не хватает административного ресурса.

**— Лукашенко высказался про вас так: *"Сидит в Польше за каменными стенами под охраной спецслужб"*. У вас есть личные охранники?**

— Я и мои товарищи соблюдаем меры конспирации, но охраны у нас нет.

**— Не только представители власти упрекали вас в связи со спецслужбами. Как думаете, почему?**

— Наверное, не верят, что у нашей молодой команды может быть настолько серьезный и системных подход к организации деятельности.

**— Как вам кажется, почему лидеры оппозиции не принимали участия в молчаливых акциях протеста на площади?**

— Ко всему новому относятся с опаской. Многие наши люди вообще привыкли жить по не самому лучшему, на мой взгляд, принципу "Моя хата с краю".

**— Если смотреть Белорусское телевидение, можно сделать вывод, что Дианов неплохо заработал на молчаливых акциях протеста...**

— Ну пусть говорят — людей переубедить сложно. Я как говорил, так и говорю: мы пока все свои средства только вкладываем в борьбу и ничего не накапливаем.

**— На какие средства вы сегодня живете в Кракове?**

— На личные. Я работаю — являюсь консультантом по социальным сетям в нескольких проектах. На жизнь хватает.

**— В 2008 году вы были доверенным лицом кандидата в депутаты Алеся Михалевича во время парламентских выборов. Сейчас общаетесь с ним?**

— Да, конечно. У меня с Алесем хорошие отношения. Даже когда Алеся не так давно здесь, в Польше, задержали, мы с ребятами были готовы к самому худшему и уже готовили акцию у Генеральной прокуратуры Польши.

**— Какой белорусский политик кажется вам самым достойным?**

— Не могу сейчас ответить на данный вопрос... Всему свое время... Но такой человек есть.

**— Вас называют инициатором создания и председателем совета просветительского общественного объединения "Движение Будущего". Что это за движение?**

— Это оффлайн-основа РЧСС, в основном в Минске. Молодежное движение, которое зародилось в 2007 году в интернете, а потом из онлайна пришло в реальную жизнь. Мы провели десятки акций и несколько кампаний.

**— Читала, что ваш отец занимается бизнесом в Москве, а мама преподает в хореографическом колледже в Минске. Как родители относятся к вашей бурной революционной деятельности?**

— Относятся нормально, переубедить меня невозможно.

**— На близких людей как-то пытались давить, чтобы вас образумить?**

— Ходят, расспрашивают. Прямого давления нет.

**— В марте вам исполнится 25. Какие планы на дальнейшую жизнь?**

— Буду продолжать заниматься тем, чем занимался. Только более профессионально и динамично.

**— При каких условиях возможно возвращение в Беларусь?**

— Не хочу создавать рамки... Интуитивно. Я просто почувствую, что надо, что пора...

**Марина КОКТЫШ.**

### ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА

Вячеслав Дианов. Родился 4 марта 1987 года в Праге в семье спортсмена и хореографа. Белорус. Православный.

В 2005 году поступил в Белорусский государственный технологический университет на специальность инженер-педагог.

В 2010-м был кандидатом в депутаты Минского городского совета по Шугаевскому округу №53.

Любимые цитаты: *"Устал — отдохни. Но после этого ты уже никогда не будешь бойцом революции"* (Че Гевара).

*"И один человек может что-то изменить, а попытаться должен каждый"* (Джон Кеннеди).

*"Короли уходят, а народы остаются"* (В.Гюго).

ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА

## Ці адбудзецца ў Беларусі чэмпіянат свету па хакеі?

*Барак Абама падпісаў "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі". Гэты закон прадугледжвае ўвядзенне новых санкцый супраць нашай краіны.*

Пра гэта, як перадае агенцтва РИА "Новости", паведаміў прэс-сакратар Белага дома **Джэй Керні**.

Новы пакет санкцый пашырае спіс беларускіх чыноўнікаў і прадстаўнікоў сілавых структур, на якіх накладваюцца візавыя абмежаванні і фінансавыя санкцыі. У законе таксама ўтрымліваецца заклік да Міжнароднай федэрацыі хакея адмовіцца ад правядзення ў Беларусі чэмпіянату свету па хакеі 2014 года.

Нагадаем, што ў сярэдзіне снежня законапраект аб санкцыях быў ухвалены Сенатам ЗША.

НУ І НУ!

# Колькі каштуе прэзідэнцкі хакейны турнір, не ведае нават Мінфін

***Але вядома, што 90 мільёнаў рублёў пайшло толькі на ўпрыгожванне Палаца спорту, "каб сорамна не было".***

Восьмы Калядны хакейны турнір на прыз прэзідэнта Беларусі пачаўся, а ў якую суму ён абыдзецца бюджэту і падаткаплацельшчыкам — не вядома. Паводле слоў кіраўніка прэс-службы Прэзідэнцкага спартыўнага клуба **Аляксандра Храмылёва**, кожны з суарганізатараў турніру адказвае за сваю частку расходаў. Пра ўнёсак Прэзідэнцкага спартыўнага клуба ён сказаць адмаўляецца.

*"У кожнага ёсць пэўныя функцыі па гэтым турніры*, — адказаў Храмылеў. — *Прэзідэнцкі спартыўны клуб адказвае за друкаваную, сувенірную прадукцыю, прадукцыю для ўзнагароджвання — і ўсё гэта зафіксавана. Мы падлічвалі свой бюджэт, які ўнеслі ў турнір. Але гэта толькі частка, і гэта застанецца з намі*".

Як даведалася "Еўрарадыё", да Мінска ўсе каманды дабіраліся за свой кошт. Засяленне ў гатэль, харчаванне — за гэта адказвае Мінгарвыканкам. Якую суму заплаціць сталіца, начальнік упраўлення фізічнай культуры, спорту і турызму **Аляксей Пракаповіч** не ведае нават прыблізна.

*— Нам выставяць рахунак толькі тады, калі закончыцца турнір. І мы паглядзім, колькі мы выдаткуем на ўсю гэтую справу.*

***— А раптам будзе такая сума, што бухгалтары за галаву схопяцца?***

*— Не схопяцца: у нас жа гэта не першы турнір. Таму — усё ў нормах неабходных будзе. Я думаю...*

Але назваць суму, у якую гораду абышоўся леташні турнір, ён таксама не змог. Маўляў, не валодае лічбамі.

Пражываць спартсмены сямі каманд будуць у гатэлях "Мінск" і "Планета". І толькі хакеісты расійскай зборнай жывуць за свой кошт у гатэлі Crowne Plaza. Аднамесны нумар у "Мінску" каштуе 189 долараў у суткі, у "Планеце" — ад 95 да 120 долараў. Шэсць каманд, кожная з 26 хакеістаў і трэнераў. Лічыце самі...

Начальнік упраўлення кадравага, інфармацыйна-аналітычнага і арганізацыйнага забеспячэння Міністэрства спорту **Станіслаў Максімовіч** называе толькі адну лічбу: 90 мільёнаў на ўпрыгожванне Палаца спорту — *"каб сорамна не было"*.

*"Наша справа — каб яны прыехалі, каб яны гулялі, каб зала была ўпрыгожана*, — гаворыць Максімовіч. — *Мы далі 90 мільёнаў Палацу спорту на тое, каб фіранкамі, сняжынкамі ўпрыгожылі залу, — каб сорамна не было. Вось гэта па нашай частцы!"*

І падказвае, куды звярнуцца, каб даведацца пра агульную лічбу выдаткаваных на турнір грошай, — у Мінфін: "*Нават калі пальцы дзвярыма зашчэміце — як скажу, колькі каштуе, калі не ведаю? У Мінфіне гэта ёсць — хто на гэтым сядзіць і ўсё ў кучу збірае. А так самі ўявіце: Прэзідэнцкі спартыўны клуб — сабе, горад — сабе. А вы ж ведаеце, што такое Прэзідэнцкі спартыўны клуб — і што, я пайду пытанні задаваць: "Колькі гэта каштуе?". Мне гэта трэба?! У Мінфіне, хто сядзіць на гэтым бюджэце, вось яны, можа, прыблізна і ведаюць".*

Кіраўнік прэс-службы Мінфіна **Ірына Комар** пасля кансультацый з кіраўніцтвам катэгарычна заявіла: канчатковы каштарыс турніру мусіць быць... у Мінспорту!

**Зміцер ЛУКАШУК.**

КРИМИНАЛЬНАЯ ХРОНИКА

# Продают даже несуществующие квартиры...

*Начальник главного управления по борьбе с экономическими преступлениями МВД Республики Беларусь полковник милиции **Эдуард НИКИТИН** признался, что даже по самым скромным подсчетам около 730 миллиардов рублей из всех затрат на строительство осели в карманах коррупционеров.*

Самыми коррумпированными сферами белорусской жизни уже много лет являются строительство, сельское хозяйство и перерабатывающая промышленность. И если на строительство из бюджета в 2010 году выделено более 4,3 триллиона рублей, то за год около 730 миллиардов рублей растворились в неизвестных карманах.

*"Это немногим превышает общую стоимость такого объекта, как "Минск-Арена", или равно стоимости 60 типовых панельных домов в Минске"*, — признался Никитин bep.gov.by.

Нечистые на руку предприниматели научились снимать барыши со всего, даже с воздуха. Так, председатель правления общественного объединения "Фонд социальной защиты "Время" за три года "задобрил" бывшего генерального директора открытого акционерного общества "Трест Белстромремонт" и его заместителя на 306 тысяч долларов. Мошенник не жалел денег на взятки, ведь так он получал возможность проводить гораздо более выгодные сделки. Нечестный предприниматель привлек без малого 3 миллиарда рублей дольщиков на строительство жилья, которого просто не могло быть. Квадратные метры на 7-м, 8-м, 9-м этажах продавались в... шестиэтажном доме.

*"В объеме общеуголовных преступлений злодеяния экономической направленности занимают всего 5%. Однако установленный ущерб по ним составляет 175 миллиардов рублей из общей суммы в 366 миллиардов (48%). И это преимущественно бюджетные деньги"*, — констатировал Эдуард Никитин.

**Мария МАЛЕВИЧ.**

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Прад імем Святой Еўфрасінні...

*Згодна з летапісам, Прадслава, Святая Еўфрасіння Полацкая, нарадзілася прыкладна ў 1102 годзе. Значыцца, сёлета мы адзначаем яе 910-годдзе...*

Мінуўшчына пераплецена не толькі гістарычнымі фактамі, але і міфамі. І тут важна не блытаць адно з другім. На вялікае шчасце, спадчыннасць Святой Еўфрасінні Полацкай, роўна як і яе жыццё, — не міф, а рэальнасць, данесеная нам праз тоўшчу стагоддзяў у світках "Жыція...". І гэтая рэальнасць настолькі блізкая для нас сённяшніх, настолькі актуальная, што змушае вяртацца да асобы святой зноў і зноў. Асабліва ў моманты разгубленасці і часовай страты арыенціраў, татальнага панявер'я і духоўнай прыгнечанасці.

Еўфрасіння была дачкой малодшага сына Усяслава Брачыславіча Святаслава-Георгія і да пастрыгу насіла імя Прадслава. Здавалася, юную князёўну чакае звычайны жаночы лёс — шлюб, сям'я, дзеці... Тым больш ад нараджэння ёй было дадзена ўсё: незвычайная прыгажосць, набожнасць, знатнасць роду. Невыпадкова многія князі слалі да яе бацькі сватоў. Да ўсяго Прадслава рана авалодала граматай, чытала Святое Пісанне, Псалтыры і ўсе духоўныя кнігі, якія траплялі ў рукі. Шмат якія княжычы хацелі яе рукі. Аднойчы, уведаўшы пра бацькоўскую задуму абручыць яе з нейкім князем, 12-гадовая Прадслава ўпотайкі пакінула дом і пасялілася ў манастыры. Ігумення Раманія (удава Рамана Усяславіча) прыняла яе і благаславіла дзяўчынку на манаскі абраз.

Па блаславенні ж епіскапа Полацкага Іліі Прадслава стала жыць пры Сафійскім саборы, ва ўсім пераймаючы Прасвятую Багародзіцу, якая ў маленстве таксама жыла пры храме — Іерусалімскім. Штодня і па начах, пакуль сон не зморыць, вывучала кнігі з бібліятэчнага збору, займалася перапісваннем іх, а большую частку зробленых грошай раздавала бедным людзям...

Сёння і заўтра, да нас і пасля нас людзі пытацьмуць: хто падзвіг прыгажуню, разумніцу, дачку слаўнага князя памяняць бесклапотнае жыццё ў бацькоўскім доме на аскетычнае служэнне Богу і людзям? Лепш як у самім "Жыціі Еўфрасінні Полацкай", ці льга сказаць?.. *"Што ж учынілі бацькоўскія роды, якія былі да нас? Жаніліся і выходзілі замуж і княжылі, але не вечна жылі, жыццё іх праплыло, і загінула іхняя слава, быццам прах, горай за павуцінне. Затое жанчыны, што жылі раней і, узяўшы мужчынскую моц, пайшлі следам за сваім жаніхом, і целы свае аддалі на пакуты, і паклалі галовы пад меч, а іншыя хоць і не схілілі шыі свае пад жалеза, але мячом духоўным адсеклі плоцкія асалоды, аддаўшы целы посту, чуйнаванню і малітоўнаму кленчанню, і зямельнаму лятанню, — тых памятаюць на зямлі, іх імёны напісаны на нябёсах, дзе яны з анёламі Бога ўхваляюць. А слава гэтая — пыл і попел, быццам дым разыходзіцца і нібы пара водная гіне".*

Падзвігла князёўну нічым не замутнёная анёльская душа, адкрытая Богу і свету... Сэрцам зразумела юная Прадслава ўсю марнасць людской мітусні, пагоню за багаццем і сытасцю, спракавечную прагу да зямной славы — тыя самыя пыл і попел. Але нятленнымі застануцца добрыя справы, а праз дабро людзям, праз любоў да іх можна ўратаваць і Божы дар — саму душу. Ужо ў дзіцячым узросце яна спасцігла мудрасць, якую, бывае, і ў старасці не кожнаму дадзена ўнікнуць — мудрасць Божага запавету. Таму і была пакліканай Госпадам, стала служыць Яму і людзям...

Неўзабаве, прыкладна ў 1114 годзе, Прадслава прыняла анёльскі чын і пры пастрыгу атрымала імя — Еўфрасіння (па грэчаску — "Радасць"). Можна толькі здагадвацца, у якім горы і роспачы быў ейны бацька Святаслаў-Георгій, як смуткаваў — дачка ж, у яго разуменні, была страчана для сям'і. Але дарэмна сумаваў уладар, суцяшаючы сябе і блізкіх. Не згубіў ён дачку, а прыдбаў заступніцу перад Богам і за сваю сям'ю, і за свой родны Полацк, і за ўсіх людзей...

Шчырыя малітвы ўзносіла да нябеснага Айца верніца. І шчырасць яе душы асвятляла цемру таго жорсткага часу. Ды каб жа толькі малітвы... Да яе ішлі на суцяшэнне, па міласціну. Яна лячыла цялесныя і духоўныя раны. З дня ў дзень руплівая праца па перапісванні Святога пісання, асветных кніг. І кожнае напісанае ёю слова — як зерне, кінутае аратаем ва ўраджайную глебу. Кожнае слоўца несла людзям асвету, расплюшчвала вочы тым, хто яшчэ ўчора біў паклоны ідалам... І храм свой — бялюткі, нібы свечка, з яркімі фрэскамі святых, белакаменны — пабудавала яна. Па ейнай просьбе Іаан узвёў царкву, якой яшчэ не было ні ў Полацкай зямлі, ні ва ўсёй Русі. У першай жа малітве ў сваім Спасаўскім храме Еўфрасіння прасіла Бога, каб збярог ён людзей: *"Будзь ім, Госпадзе, зброяй і забралам, каб не сышло на іх зло, каб раны не закранулі цел нашых; не загубі нас з нашымі беззаконнямі, бо на цябе мы ўсхваляем да апошняга нашага ўздыху! Давеку — амін!"*

І яшчэ адзін храм пабудавала Еўфрасіння і заснавала два жаночыя манастыры. Прыходзілі ў тыя храмы святыя і вернікі, каго паклікаў да сябе Бог. І навучала іх Еўфрасіння: *"Вось сабрала вас, нібы птушанятаў, пад крылы свае і на пашы, нібы авечак, каб вы пасвіліся ў Божых наказах. А я з лёгкім сэрцам стараюся вучыць вас, бачачы плён вашай працы, і такі дождж вучэння на вас праліваю! Але ж вашыя нівы стаяць, не ўзыходзячы і не ўзрастаючы ўгору, а год ужо завяршаецца, і лапата ляжыць на гумне. І баюся, што будзеце вы пустазеллем і аддадуць вас агню непагаснаму. Пастарайцеся ж, дзеці мае, пазбегнуць яго, і ўчыніце сябе вы пшаніцаю чыстай, і змяліцеся ў жорнах умірнасцю, малітвамі, постам, каб чыстым хлебам прынесціся на трапезу Хрыстову!"*



Еўфрасіння несла людзям не адно веру Хрыстову, але і святасць роднай зямлі, аздабляла яе святынямі. Па яе просьбе візантыйскі імператар Мануіл і Канстанцінопальскі патрыярх Лука прыслалі ў Полацк абраз Эфескай Божай Маці, пісаны, паводле падання, евангелістам Лукой. Яна ж заказала майстру Лазару Богшу зрабіць крыж, у якім знаходзіліся хрысціянскія рэліквіі: кроплі крыві Ісуса Хрыста, кавалачак крыжа Гасподняга, камяньчык ад дамавіны Багародзіцы, часткі мошчаў Святых Стэфана і Панцеляймона, а таксама кроплі крыві Святога Дзмітрыя. Той шасціканцовы крыж — галоўная святыня ўсіх беларусаў — быў выкрадзены зламыснікамі падчас Другой сусветнай вайны. І пакуль невядома, дзе ён, у якіх сховах... Затое вядома іншае, з напісанага на тым крыжы: *"Господи, помози рабоу своемоу Лазарю, нареченномоу Богъши, съделавъшему крьстъ сии церкви Святого Спаса и Офросиньи".*

Палачане прызналі сваю знакамітую суайчынніцу святой яшчэ восем стагоддзяў таму. Да сярэдзіны XV стагоддзя Полацк быў галоўным духоўным цэнтрам беларускіх зямель, дзяржавы нашай. Адсюль услаўленне князёўны-ігуменні распаўсюдзілася па ўсёй Беларусі, і паступова ў вачах вернікаў — як у праваслаўных, так і ў католікаў — яна сталася нябеснай заступніцай.

...У Свята-Еўфрасіннеўскім манастыры, куды сцякаюцца паломнікі з усяго свету, ёсць сціплая белая цэркаўка. У сярэдзіне XII стагоддзя яе ўзвёў той самы манах Іаан. Маленькі памерамі храм (8 на 12 метраў) унікальны ўжо тым, што выстаяў амаль тысячу гадоў на Богам блаславёнай зямлі — нашай з вамі зямлі, якую цягам стагоддзяў спустошвалі і руйнавалі ворагі яе. Але сапраўдным рукатворным цудам з'яўляюцца фрэскі на сценах гэтай цэркаўкі. Яны ўцалелі да нашых дзён, захаваўшы шматколернасць фарбаў і адухоўленасць, якой, несумненна, валодаў майстар, што іх стварыў. Як ад "Тройцы" Андрэя Рублёва, гэтак і ад фрэсак Спасаўскай царквы струменіць Божая раскоша. Сярод фрэсак ёсць адна (на паўночна-заходнім слупе, ён падтрымлівае царкоўныя хоры), перад якой затрымліваюцца асабліва падоўгу. Перад намі незвычайны жаночы твар. Жанчына не падаецца пакутніцай, тым больш пашаноўнай князёўнай. У вачах няма ні пакоры перад лёсам, які сабе выбрала, ні ўладарніцкага бляску першых хрысціянскіх прапаведнікаў. З вачэй, быццам жывых, струменіць цёплае, добрае святло і любоў да ўсіх. Кожны, хто хоць аднойчы зазірнуў у гэтыя вочы, пагодзіцца з тым, што фрэска пісалася з самой настаяцельніцы манастыра, ігуменні Еўфрасінні, якую ўдзячны майстар яшчэ пры жыцці лічыў святой...

Дык хто ж яна для нас, цяперашніх, — Святая Еўфрасіння Полацкая? Узор духоўнасці, сімвал падзвіжніцтва і высакародства, увасабленне веры ў Госпада?.. Ці проста — апякунка зямлі беларускай, сыноў і дачок яе?..

Насамрэч усё сказанае і ёсць адказ на запытальнае... Іншая справа, што народжаныя на гэтай зямлі, ускормленыя і выхаваныя сваімі бацькамі, не абавязкова носяць у сэрцы ўдзячнасць за тое, што над імі нехта апякуецца. А дарэмна, бо толькі завешчанае Святой Еўфрасінняй, успрынятае кожным з нас як запавет яе — прыўносяць не адно радасць у быццё зямное, веру ў Боскую літасць і спагаду, але і даюць надзею на збавенне... Таму ўсе, хто не страціў веры, зімой і летам, асабліва ж 5 чэрвеня (у Дзень памяці) едуць у старажытны Полацк — каб пакланіцца мошчам Прападобнай Еўфрасінні, першай святой жанчыне не толькі ў нашай краіне, але і ва ўсёй Усходняй Еўропе.

**Георгій ЧЫГІР.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Сяргей Крывец зарабіў 308 тысяч долараў

*Беларускі футбаліст Сяргей Крывец у Польшчы апынуўся ў дваццатцы спартсменаў-замежнікаў, якія найбольш зарабляюць. У былога футбаліста БАТЭ 16-е месца.*

Як паведамляе Польскае радыё, заробкі беларускага футбаліста за мінулы год ацэньваюцца ў 1 мільён 50 тысяч злотых (прыкладна 308 тысяч долараў).

Рэйтынг склаў спартыўны часопіс „Przeglad Sportowy".

Нагадаем, што са снежня 2009 года Сяргей Крывец гуляе за польскі клуб Lech Poznan.

# Великолепная Оксана,

## или Иногда она возвращается

*Меццо-сопрано Национальной белорусской оперы **Оксана Волкова**, чье восхождение на мировой певческий олимп происходит буквально на наших глазах, сегодня снова выступает в Большом театре России — в опере Н.Римского-Корсакова "Царская невеста". И в конце месяца она снова приедет в Большой — чтобы выступить в "Набукко" Дж.Верди. Что ж, как видим, Москва высоко ценит нашу соотечественницу, предоставляя ей свою прославленную сцену: на сегодняшний день Волкова — приглашенная солистка Большого театра, вместе с которым она принимала участие в гастролях в Лондоне и Мадриде.*

Не отстает от Москвы и Европа. Весной Волкова пела в Италии, в Палермо, в сентябре — выступала в Опере Ниццы. Критики писали: "Обладая красивой внешностью, эта молодая певица представляет собой сплетение ярких музыкальных качеств, магической окраски тембра, совершенства всех его регистров в ансамбле его тесситуры. И нет ничего удивительного в том, что в этом сезоне ее принимает в своих стенах Метрополитен опера Нью-Йорка. Запомните это имя и следите за ее карьерой!"



"Оксана Волкова является настоящим открытием. Обладая идеальной пластикой (она сразу наводит на мысль о своей знаменитой коллеге Анне Нетребко), она исполняет Маргариту с несравнимой (бесподобной) мощью, одновременно нежной и лучезарной; ее бархатное меццо придает смысл каждому слову, а еще ее голос обладает прекрасным диапазоном, наделенным глубокими низкими нотами; ее великолепное произношение французского языка, что встречается крайне редко у русских певиц, выделяет ее среди всех остальных. Она прекрасно исполняет "В Фуле когда-то жил король", а знаменитый романс "Любви волшебный пламень угас в душе больной" она исполняет с таким мастерством, которое вызывает глубокое восхищение относительно ее столь молодого возраста. Ее можно упрекнуть лишь в небольшом отсутствии стабильности ее среднего регистра. Чудесное открытие!"

Мы, безмерно радуясь успеху Оксаны Волковой, только что созвонились с ней, чтобы поздравить певицу, а также, немного волнуясь, спросить: вернется ли она в Минск? Или мы теперь будем узнавать о ней только из лент мировых новостей? Оксана засмеялась: "21 января выступаю в родном театре в опере "Кармен"!"

Значит, еще не опоздали: увидим, услышим. Будет и интервью со звездой. Следите за нашей газетой!

**Елена МОЛОЧКО.**

А ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ...

# В каких городах больше всего радиации?

*В Беларуси остается пять крупных населенных пунктов с повышенным уровнем радиации. По словам начальника службы радиационного контроля Республиканского центра радиационного контроля и мониторинга окружающей среды **Светланы ПЕСЕЦКОЙ,** повышенный уровень радиации в 2011 году отмечался в Брагине, Хойниках, Наровле, Славгороде и Чечерске.*




По ее словам, сообщает БелаПАН, анализ мощности дозы гамма-излучения показал, что в этих населенных пунктах оно составляло 0,20 мкЗв/час и выше. На остальной территории Беларуси мощность дозы гамма-излучения колебалась в пределах 0,10—0,13 мкЗв/час. *"В настоящее время радиационная обстановка по мощности дозы гамма-излучения в Беларуси стабилизировалась, идет постоянное снижение мощности за счет естественного распада радионуклидов"*, — заявила Песецкая.

По ее словам, за весь год также не было зафиксировано превышений в атмосферных выпадениях и аэрозолях среднегодовой допустимой активности техногенного радионуклида цезия-137.

Радиационная обстановка по поверхностным водам контролируется на шести реках Гомельской области и на озере Дрисвяты, которое находится в зоне наблюдения Игналинской АЭС. Превышения допустимых уровней, принятых для питьевой воды, также не было зарегистрировано.

Радиационный контроль почвы осуществлялся на 39 площадках. *"Сделан вывод, что радиационную обстановку на территории Беларуси в основном определяет естественный радиоактивный распад. Содержание активных радионуклидов в объектах окружающей среды снижается"*, — отметила Песецкая.

# Затрыманы гендырэктар «Мазырсолі»



Як паведамілі БелаПАН у прэс-групе УКДБ па Гомельскай вобласці, 57-гадовы кіраўнік прадпрыемства Міхаіл Літвін быў затрыманы ў сваім працоўным кабінеце з доказамі злачынства ў момант атрымання незаконнага грашовага ўзнагароджання.

Яму прад'яўлена абвінавачанне ў атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры за спрыяльнае рашэнне пытанняў, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю.

У дачыненні да затрыманага Камітэтам дзяржбяспекі заведзена крымінальная справа па ч.3 арт.430 Крымінальнага кодэкса (атрыманне хабару). Санкцыяй данага артыкула прадугледжана пакаранне да 15 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

Затрыманы змешчаны ў СІЗА КДБ. Вядзецца следства.

ПОД ГРАДУСОМ

# Приход зимы откладывается

*По словам начальника службы гидрометеорологических прогнозов Республиканского гидрометеоцентра **Дмитрия Рябова**, по-настоящему зимняя погода в Беларуси ожидается только во второй половине января.*

Январь ожидается на один градус теплее климатической нормы, которая составляет минус 5—8°С.

Сегодня***, 6 января***, ожидаются осадки, в основном в виде мокрого снега, сохранится ветреная погода, порывы ветра будут достигать 15—20 м/с. Температура воздуха в течение суток — минус 2°С — плюс 3°С, сохранится гололед.

***На Рождество*** на территорию Беларуси начнут поступать воздушные массы со Скандинавского полуострова, в ночные часы подморозит. Температура воздуха ночью ожидается 0°С — минус 7°С, днем — от минус 5°С по северу до плюс 2°С в южных районах, на большей части территории Беларуси — осадки, в основном в виде снега***. 8 января*** днем ожидается 0°С — минус 5°С, ночью около 0°С, на большей части территории также кратковременные осадки, сообщает БелаПАН.

***Во второй декаде января*** время от времени будут идти осадки в основном в виде снега и мокрого снега, в отдельные дни по южной половине — с дождем. Температура воздуха ночью в основном будет колебаться от 0°С до минус 7°С, при прояснениях — до минус 10°С. Днем температура составит минус 5°С — плюс 2°С. ***Во второй половине второй декады*** ожидается понижение температуры воздуха. Ночью прогнозируется минус 10—15°С, днем — минус 2—7°С, в течение одного-трех дней в основном по северо-востоку температура воздуха может охлаждаться до минус 16—21°С, при этом дневная температура не превысит минус 8—13°С.

***В третьей декаде*** в отдельные дни ожидается снег, мокрый снег, температура воздуха ночью в основном будет колебаться от минус 3—8°С в южных районах до минус 9—14°С по северу. Днем преобладающая температура воздуха будет колебаться от минус 5°С — плюс 2°С до минус 6—8°С. В самые холодные сутки есть вероятность того, что температура воздуха будет понижаться до минус 15—20°С.

***Февраль по предварительному прогнозу также будет теплее обычного.*** Среднемесячная температура воздуха ожидается на градус теплее климатической нормы, а количество осадков немногим меньше средних многолетних значений.

## *Софья УСС:*
## *«Для мяне “Народная Воля” стала глытком свежага паветра»*

Я раней ніколі не чытала “Народную Волю”. Ведала, што ёсць такая газета, але не набывала яе. Пасля таго як майго сына пасадзілі за краты як нейкага крымінальніка, я стала набываць “Народную Волю”. А гэта было няпроста. Газету ў шапіках разбіралі імгненна. Людзі ж ужо ведалі цану той інфармацыі, якая лілася на людзей з экранаў дзяржаўнага тэлебачання ды была надрукавана ў прыдворных газетах. Для мяне тады “Народная Воля” стала глытком свежага паветра. Я сама змагла выказацца на старонках газеты і распавесці пра справу майго сына.

Вельмі ўдзячная “Народнай Волі”, якая не пабаялася казаць праўду ў той час, калі ў краіне адбываліся такія жудасныя рэпрэсіі, і перш за ўсё супраць саміх незалежных журналістаў. Прайшоў гэты цяжкі для ўсіх нас год, але гэта быў і год перамог. Калі нехта змог перамагчы свой страх і зрабіць свой выбар, то гэта, можа, галоўная перамога чалавека ў яго жыцці. Я зычу ўсяму калектыву “Народнай Волі” здароўя і поспехаў ва ўсіх справах! Ведаю, што вам даводзіцца працаваць у цяжкіх умовах, і таму спадзяюся, што ў новым годзе вам будзе спрыяць удача.

**Ваша адданая чытачка —**

**Софья Міхайлаўна УСС.**

ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

# Как остановить безобразие?

*Глубокоуважаемый Иосиф Павлович!*

*Прошел в первом чтении в Палате представителей Национального собрания законопроект “Об обращении с животными”. Как члены рабочей группы по разработке этого законопроекта мы заявляем: он подготовлен чиновниками практически без учета наших предложений и являет собой вариант, который значительно ухудшает как прежнюю версию проекта (рассматривалась в 2011—2008 гг.), так и ныне действующие нормативно-правовые документы.*

*Наши обращения в высшие и заинтересованные инстанции с изложением ситуации вокруг законопроекта имели результатом одни “отписки”. Мы не получили уведомления, что к нашим предложениям, как и предложениям других общественных объединений, прислушаются.*

*Остается последняя надежда: с Вашего позволения обратиться через газету “Народная Воля” непосредственного к Президенту страны. Мы, увы, прекрасно знаем из опыта взаимодействия с многими чиновниками, что мнение общественности для них ничто...*

**Е.Т.ТИТОВА,**
**председатель совета ООБЗЖ “Абаронім жыццё”,**
**кандидат биологических наук.**
**М.А.ПУШКЕВИЧ,**
**председатель совета ООЗЖ “Зоосвет”.**
**Н.А.БЕЛЯНОВА,**
**председатель совета ООЗЖ “Эгида”.**

## Открытое обращение к Президенту Беларуси А.Г.Лукашенко

Уважаемый Александр Григорьевич!

Обратиться к Вам нас вынуждает безвыходная ситуация вокруг законопроекта “Об обращении с животными”. Он прошел первое чтение в Палате представителей Национального собрания Республики Беларусь почти без учета мнения специалистов и общественных объединений. В нем во многом проигнорированы международные принципы защиты животных и ущемляются права граждан. Проект усугубляет остросоциальные проблемы в этой сфере и создает новые, закрепляет прямую или завуалированную жестокость к животным.

Убеждены, что принятие закона в таком варианте нанесет вред обществу, приведет к экономическому и нравственному ущербу. Считаем, что в такой законопроект необходимо внести изменения.

Вместо предложенного нами цивилизованного пути сокращения численности беспородных кошек и собак в законопроекте заложен механизм создания бездомной популяции животных — через разведение животных в квартирах и домах. Наше предложение об обязательной стерилизации собак на автостоянках, стройплощадках и предприятиях, а также собак и кошек на дачах и в частном секторе за счет их владельцев также отвергнуто.

Количество бездомных животных нужно радикально сокращать. Но их численность растет, несмотря на варварские методы уничтожения службами отлова таких животных. Эти методы дают уроки безнравственности и жестокости, формируют отрицательные личностные качества у одних и причиняют физические и психические страдания другим.

Колоссальные средства выбрасываются на ветер, а психика и здоровье людей подвергаются тяжелейшему прессингу, поскольку взрослые и дети часто являются свидетелями уничтожения животных. Чиновники выбрали неэффективный, нецивилизованный и затратный метод — “отловить и убить”.

Введено ограничение на количество собак и кошек — не более двух в квартире. Ни в украинском законе о защите животных, ни в российском законопроекте об ответственном обращении с животными подобного нет. Статьи Гражданского кодекса не ограничивают имущество граждан ни качественно, ни количественно (если это не нарушает права других лиц). Конституционный суд расценил такие лимиты во время предыдущего рассмотрения законопроекта как нарушение прав граждан. Ведь многие из них, чтобы не лишиться своих любимцев, не будут их регистрировать, и государство не только не будет иметь верных статистических данных, но и недополучит налоги. Неплохая идея регистрации и учета будет превращена в фикцию.

Мы согласны: нерадивые владельцы, которые создают проблемы соседям, должны наказываться. Но не должны ущемляться права тех людей, которые имеют достаточные площади для содержания животных, соблюдают все правила и не доставляют хлопот окружающим. Ведь не вводят же лимиты на владение автомобилями, хотя они в определенных условиях создают угрозу здоровью и даже жизни людей.

Список потенциально опасных пород собак необходимо сократить в разы и исключить термин “их помеси” из-за невозможности идентификации “помесей” и опасности отнесения к ним обычных дворняг, что неизбежно усилит массовое уничтожение беспородных собак. Список из 47 пород вызывает недоумение и смех у специалистов-кинологов, поскольку в нем присутствуют и декоративные, вымирающие, несуществующие ныне породы. В России вообще отказались от такого списка.

В законопроекте дается зеленый свет негуманному умерщвлению животных в условиях “глубокого сна”. Такая формулировка является прикрытием жестокости, поскольку глубокий сон не снимает болевую рецепцию. Эвтаназия должна проводиться только в условиях общего наркоза, иначе это не эвтаназия, а варварское убийство.

Многие положения законопроекта являются пропагандой жестокости. Так, разрешается принуждение животных к выполнению действий, которые могут повлечь увечье, травму или гибель в подготовке и проведении культурно-зрелищных и спортивных мероприятий. Разрешается использование животных при натаскивании и нагонке охотничьих собак и ловчих птиц. В прежнем варианте законопроекта запрещалась в незакодированном виде демонстрация телеканалами материалов, пропагандирующих охоту и рыбалку вне специализированных изданий. В последнем варианте — разрешили. Убрали также запрет на добычу диких животных, имеющих детенышей; самок млекопитающих в поздние сроки беременности; детенышей, не способных к самостоятельному существованию. В завуалированной форме в законопроект введено положение об использовании силков и капканов при добыче диких животных. Нет запрета на передвижные зверинцы и зоопарки как рассадники жестокости и антисанитарии (в российском законопроекте такой запрет введен).

В проекте много нестыковок и противоречий. Нельзя допускать в законе разночтений, иначе он станет как дышло. Законопроект “Об обращении с животными” содержит запрет на присутствие животных в школах, детсадах, организациях здравоохранения и других общественных местах. Во многих же странах принято держать кошек в отелях, офисах, больницах для создания благоприятной психологической атмосферы. Запрет на нахождение кошек в подвалах, где они часто замуровываются (на решетки тратятся колоссальные средства) и гибнут — практика, неслыханная в цивилизованном мире. Изгнание кошек из подвалов как раз и способствует распространению инфекций, общих для животных и человека. Кошек необходимо локализовать в подвалах для ветобеспечения и опеки. Их можно стерилизовать, что внесет вклад в решение проблемы бездомных животных.

Законопроект не решает проблемы наказания за жестокое обращение с животными из-за того, что не предусмотрена уголовная ответственность, а статья 15.45 КОАП не работает, потому что все отдано в руки администраций и исполкомов, которые не имеют опыта подготовки дел в суды.

Сегодня создатели законопроекта не учли ошибки прошлого и требования настоящего момента. Мы знаем, что законопроект вызвал бурный протест со стороны не только любителей животных и зоозащитников, но и со стороны многих обычных граждан, здравомыслящих людей.

Просим Вас, уважаемый Александр Григорьевич, посодействовать тому, чтобы в законопроект “Об обращении с животными” были внесены предложения общественных объединений и специалистов. Законопроект должен соответствовать заявленным принципам и целям во благо людям и животным, а не во вред им.

**Е.Т.ТИТОВА,**
**председатель совета ООБЗЖ “Абаронім жыццё”, кандидат биологических наук.**
**М.А.ПУШКЕВИЧ,**
**председатель совета ООЗЖ “Зоосвет”.**
**Н.А.БЕЛЯНОВА,**
**председатель совета ООЗЖ “Эгида”.**

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# «Я люблю ўсіх жанчын, а кахаю толькі жонку»

## *Без мовы няма краіны*

“Народная Воля” надрукавала безліч матэрыялаў пра становішча нацыянальнай мовы Рэспублікі Беларусь і працягвае абмяркоўваць гэта лёсавызначальнае для нашай краіны пытанне. Я, як грамадзянін, які нарадзіўся, вырас у вёсцы і на працягу ўсяго працоўнага жыцця меў дачыненне да роднай мовы, таксама не магу застацца ў баку ад глумлення над нашай галоўнай святыняй.

Пачну з таго, што з першага класа і да атрымання атэстата сталасці ў 1956 годзе літаральна ўсе школьныя дысцыпліны, як і мае равеснікі, я вывучаў выключна на беларускай мове. У арыфметыцы, напрыклад, для мяне не існавала “числителя” і “знаменателя”, а былі “лічэбнік” і “назоўнік”.

Сталася так, што амаль адразу пасля дзесяцігодкі мяне запрасілі на сталую работу ў веткаўскую раённую газету “Пад ленінскім сцягам”. Яе супрацоўнікі не толькі пісалі, але і размаўлялі на беларускай мове. Літаральна ўсю інфармацыю, якая паступала з Масквы ці чэрпалася з рускіх перыядычных выданняў, перад здачай у набор мы абавязкова перакладалі на беларускую мову. З вёсак у рэдакцыю таксама ішлі лісты на мове карэннага народа, часта, праўда, з ужываннем дыялектных слоў пэўнай мясцовасці.

Да сённяшніх дзён у памяці захавалася мноства выразаў і вершаваных радкоў з тых пісьмаў. У карэспандэнцыі з вёскі Вараб’ёўка, у якой ішла гаворка пра разбазарванне калгаснай маёмасці, сустрэліся такія радкі: *“Вараб’ёўка стаіць лоўка. Млын ламаны на гары. Ў Вараб’ёўцы жывуць бойка па тры злодзеі ў двары”.* У пісьме з вёскі Неглюбка, што стаіць на самым узмежжы з Браншчынай, пра адпачынак моладзі было такое: *“Гуд гудзе, гуд гудзе — з Шалухоўкі ў Пералёўку маладосць з гармонікам ідзе”.*

У цэнтральным скверы Веткі, што на Чырвонай плошчы, раённым Доме культуры хлопцы і дзяўчаты не толькі гаварылі па-беларуску, але і выходзілі на спрэчныя пытанні аб нацыянальных каштоўнасцях. На адным з дыспутаў моладзь зрабіла выснову, што ў кожнай мове ёсць свае непаўторнасці, толькі ёй уласцівыя, адметныя і дакладна не перакладаемыя на любую іншую мову словы і выразы. У якасці прыкладу прыводзіўся такі сказ: *“Я люблю ўсіх жанчын, а кахаю толькі жонку”.* Любіць можна вясну і любую іншую пару года, дрэва і нават якую-небудзь кузюрку, карацей, усё жывое на зямлі, а кахаць можна выключна толькі дзяўчыну і жонку. Удакладню: дзяцей беларус любіць, а не кахае. Вось так яно. Прапаную чытачам перакласці вышэйпрыведзены сказ на рускую мову і паглядзець, што атрымаецца, бо ў рускай мове адпаведніка слову “кахаць” проста няма — руская мова ўсё “любит”. Падобных прыкладаў не злічыць.

Гартаю сённяшнія раённыя газеты Гомельшчыны і не дзіўлюся, а дранцвею ад глумлення над самай вялікай нашай нацыянальнай каштоўнасцю, не знаходзячы на ўсіх чатырох палосах ніводнага беларускага слова і літар “ў”, “і”, калі яны не сустракаюцца ў назве саміх выданняў. Выключэнне ў агульным спісе газетных глуміцеляў матчынай мовы складае толькі “Добрушскі край”, які ў час суцэльнай русіфікацыі ўсяго беларускага рэдагавала... украінка па нацыянальнасці Людміла Піскунова, а цяпер рэдагуе... руская Вольга Селязнёва. Астатнія рэдактары раённых газет вобласці, беларусы па матчынай крыві, спрэс пераскокнулі ў “русскоязычие”.

Хто-ніхто можа кінуць камень і ў мой агарод: ты ж, маўляў, таксама не цураўся мовы суседняй краіны. Так, працуючы ў рускамоўнай (раблю націск — рускамоўнай!) “Белорусской ниве”, матэрыялы на тэмы вытворчага характару я пісаў па-руску, усе астатнія — выключна на роднай мове, і рэдактура з прыхільнасцю сустракала гэта. Без самахвальства скажу: мая беларускасць, якая ідзе з каранёў роду, у кожным выпадку дазваляла мне лягчэй і хутчэй знаходзіць сваё, больш дакладнае беларускае слова. Не буду прыводзіць прыкладаў, але зазначу, што ў райгазетах цяпер сустракаюцца такія сказы, выразы і словы, якія не стасуюцца ні з рускай, ні з беларускай мовамі.

Наша нацыянальная Берагіня яшчэ не памерла, але ўжо трапеча ў перадсмяротных канвульсіях. І вінаваты ў гэтым тыя, хто “стаіць на чале”, і тыя, хто прызвычаіўся “біць чалом” перад вышэйстаячымі. Ну пажадала ўлада ўвесці двухмоўе, дык ці павінна гэта стаць асноўнай прычынай адмовы ад беларускасці? Шматмоўе зусім не смяротнасць для тытульнай мовы. У маёй Ветцы ў свой час дзейнічала нават трохмоўе — да рускай і беларускай дадавалася яўрэйская мова. Пры гэтым, што асабліва важна, паралельна працавалі тры школы з выкладаннем усіх дысцыплін на беларускай, рускай і яўрэйскай мовах. Такое становішча спраў не падзяляла дзяцей на класы і касты, не ўносіла варожасці ў адносінах паміж бацькамі, а наадварот, пашырала кругагляд і ўзбагачала людзей. Але ж неасрэчным заставалася патрабаванне, каб мовай тытульнай нацыі карысталіся кіруючыя кадры раёна і ўсе жыццёва важныя дакументы прымаліся і выдаваліся менавіта на беларускай мове. Да роднага слова цягнулася і ўсё насельніцтва раёна.

Пытанне, як кажуць, стаіць рубам: калі мы хочам захаваць Беларусь самастойнай дзяржавай, дык у першую чаргу яе кіраўніцтва абавязана тэрмінова пераходзіць на нацыянальнае маўленне. Не забудзем галоўнага: без мовы няма народа і яго краіны.

**Мікола ЕРМАКОЎ,**
**пенсіянер.**
*Гомель.*

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО СПАЖЫЎЦОЎ

*На пытанні чытачоў “Народнай Волі” адказвае намеснік старшыні грамадскага аб’яднання “Беларускае таварыства абароны спажыўцоў” **Тамара БЕЛЬСКАЯ**.*



## *Ёсць жаданне праверыць якасць абутку?*

*Падкажыце, калі ласка, дзе можна зрабіць за свой кошт экспертызу абутку, які я набыла?*

**Раіса БАБРОЎКА, г.Слонім.**

— Можна звярнуцца ў Гандлёва-прамысловую палату, судова-экспертную калегію, Цэнтр судовых экспертыз, у Беларускае таварыства абароны спажыўцоў... На сайце Міністэрства юстыцыі Беларусі вы знойдзеце спіс арганізацый, якія маюць ліцэнзію на судова-экспертную дзейнасць.

## *Сам вінаваты — сам і адказвай*

*У магазіне заказаў заключыў дамову на пастаўку запчастак з-за мяжы. Калі яны паступілі, высветлілася, што я заказаў не тыя запчасткі. Ці магу я вярнуць іх у магазін і атрымаць назад свае грошы?*

**Андрэй СІТНІК, г.Пружаны.**

— Хто ж вам верне грошы, калі самі вінаваты? Уважліва выбірайце тавар перад тым, як яго заказваць.

## *Калі прадавец схлусіў...*

*Сітуацыя наступная: набыў новыя касеты для відэакамеры, і падчас продажу ў магазіне мяне запэўнілі, што касеты стандартныя для ўсіх камер. Але аказалася, што да маёй камеры яны не падыходзяць. Зараз прадавец кажа, што замяніць іх няма чым, а грошы вяртаць адмаўляецца. На чыім баку праўда?*

**Мікалай ДУБАВЕЦ, г.Пінск.**

— Праўда на баку пакупніка, і ён можа вярнуць тавар назад на працягу 14 дзён пасля пакупкі. Грошы абавязаны вярнуць.

## *З абменам флэшак праблем не будзе*

*Купіў флэш-карту для камп’ютара на 2 Гб, але на наступны дзень вырашыў абмяняць яе на флэшку 512 Мб. У магазіне мне адмовілі. Матывіроўка была такая: маўляў, флэш-карта ў рабочым стане, а абменьваць можна толькі недабраякасны тавар. Між тым гарантыі на флэшку не далі, чэк захаваўся, але ўпакоўку (запаяны блістэр) разрэзалі яшчэ ў магазіне. Ці меў права прадавец адмаўляць мне ў абмене?*

**Валерый КРЫЛОВІЧ, Мінск.**

— Прадавец паступіў няправільна, бо флэш-карта не адносіцца да тавараў, якія нельга абмяняць на працягу 14 дзён.

## *Пакіньце парфуму сабе*

*Набыла падарунак у парфумерным магазіне. У камплекце — шампунь, туалетная вада, нешта яшчэ... Але так атрымалася, што падарыць яго не атрымалася. Вось і думаю: ці можна яго абмяняць? Набор я нават не ўскрывала, ён перавязаны стужкай...*

**Галіна САЎЧЫЦ, Вілейскі раён.**

— Мыючыя сродкі абмяняць і вярнуць у магазін нельга, так што зараз можаце цешыцца хаця б тым, што зрабілі падарунак сабе. А гэта не такі ўжо і дрэнны варыянт.

## *Згубілі гарантыйны талон?*

*Добры дзень! Ці можна аднавіць гарантыйны талон, калі я яго згубіла? Праўда, ёсць дакумент, у якім пазначаны нумар гарантыйнага талона...*

**Марыя НОВІКАВА, г.Магілёў.**

— Можна звярнуцца да прадаўца з такой просьбай. Аднавіць гарантыйны талон не так ужо і складана.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПРАБЛЕМА

# Не трэба музыкі!




Хачу закрануць тэму музыкі ў прыгарадным маршрутным транспарце. Бо гэта надакучлівая праблема падводзіць да больш важнай — непапулярнасці ў нашым грамадстве такіх маральных каштоўнасцяў, як павага да іншага чалавека. Яскравым прыкладам гэтага для мяне з’яўляецца сітуацыя ў некаторых маршрутках Гродна—Парэчча, якімі людзі дабіраюцца ў горад на працу і назад. Дзякуючы прыватным прадпрымальнікам кожныя паўгадзіны ёсць магчымасць даехаць да горада і ў зваротным кірунку. Але тое, што гучыць ў некаторых маршрутках, музыкай і назваць цяжка — гэтае смецце не толькі рэжа вуха, але і псуе настрой. Аднак кожны вадзіцель лічыць сваім доўгам уключыць гэтую псеўдамузыку на ўсю моц.

2 студзеня я назірала такую карціну. Пажылая жанчына, якая з вялікай цяжкасцю ўвайшла, ці, дакладней, ускараскалася ў маршрутку, заўважыла, што гэтыя песні з двух слоў немагчыма нармальнаму чалавеку вытрываць, галава баліць. І дадала: “Гэта каб чалавек адурэў, каб нават забыўся, куды едзе”. Я паведаміла вадзіцелю (не ў першы раз), што такая музыка перашкаджае.

— Усім не дагодзіш, — адказаў ён. — Не падабаецца — дык едзьце іншай машынай.

Вось і ўся рэакцыя! Хаця, здавалася б, прадпрымальнік павінен радавацца колькасці пасажыраў, клапаціцца, якія водгукі мае ягоная праца. Не, няма гэтага!

У такім разе я прапаноўваю складаць расклад руху маршрутак з пазначэннем, ці не трапяць пасажыры на “турэмны канцэрт” ці нейкую пашляціну. Бо не толькі старыя, але і дзеці гэтым транспартам ездзяць.

Але калі разглядаць праблему шырэй, то, пакуль мы не навучымся паважаць іншага чалавека, бліжняга свайго і ўспрымаць яго як паўнавартасную асобу, нас саміх не будуць успрымаць як асоб, вартых павагі.

**Ірына ШАЎЧУК.**

*Гродзенскі раён.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ

## *Як лічаць беспрацоўных?*

**Добры дзень, паважаная рэдакцыя! Раскажыце, калі ласка, як вылічваецца беспрацоўе ў Беларусі і па методыцы Міжнароднай арганізацыі працы? А то, калі верыць беларускай статыстыцы, у нас наогул беспрацоўных менш за 1 працэнт...**

**Уладзімір КАРПОВІЧ, г.Мінск.**

*Нашаму чытачу адказвае старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук:*

— Па методыцы Міжнароднай арганізацыі працы (МАТ) беспрацоўе вызначаецца шляхам апытання дамашніх гаспадарак, калі фокус-групы ходзяць па дамах і высвятляюць, працуе чалавек ці не. Калі не працуе, дык чаму? Як доўга? Гэта найбольш аб’ектыўны і агульнапрызнаны метад, які і быў прыняты МАТ за аснову.

У Беларусі, на жаль, беспрацоўе вылічваецца інакш. Яно фіксуецца праз цэнтры занятасці, куды звярнуліся людзі, якія пэўны перыяд не працуюць. Адсюль і той фантастычна нізкі афіцыйны працэнт беспрацоўных у краіне. Але гэтая карціна зусім не аб’ектыўная, бо ў тыя ж цэнтры звяртаюцца адзінкі. Які сэнс? Ніхто там рэальна не дапаможа. Вельмі складана знайсці працу, якую хацеў бы. Ды і дапамога па беспрацоўі проста здзек — яна складае каля 10 долараў. Так што, як правіла, людзі альбо самі знаходзяць сабе работу, альбо праз знаёмых.

А ўвогуле, беспрацоўя менш за 1 працэнт, напэўна, нідзе ў свеце наогул не існуе. Акрамя Беларусі.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЛАД ЖЫЦЦЯ

# *Як я 1 студзеня ў прабежцы ўдзельнічала*

Перад Новым годам у газеце прачытала аб’яву, у якой было запрашэнне на навагоднюю прабежку для тых, хто здольны прытрымлівацца здаровага ладу жыцця. Сустрэча планавалася на 1 студзеня ў 12 гадзін каля цэнтральнага ўваходу ў парк імя Горкага. Паколькі я жыву недалёка, а гэта была не зусім ардынарная прапанова, то ў пазначаны час, апрануўшыся па-спартыўнаму, пабегла туды. Здалёк яшчэ ўбачыла хлопца ў белай майцы з кароткімі рукавамі, які стаяў ля варот, склаўшы на шырокім торсе рукі. Калі падышла блізка, то заўважыла, што майка тая была надзета на цёплую футболку — значыць, не морж (так называюць людзей, якія зімой купаюцца ў палонцы).

Да 12 гадзін падышло чалавек 20, былі таксама і дзяўчаткі. Роўна ў 12 пачалі рабіць размінку, потым выстраіліся ў калону па 3 чалавекі, каб нікому не замінаць, і пабеглі ў накірунку стэлы на праспекце Пераможцаў. Кіраваў гэтай групай юнак па імені Рыгор, было бачна, што ён многіх добра ведае, другі хлопец запрасіў на заняткі рэгбі.

Прабежка праходзіла вельмі дэмакратычна, бо, калі хто-небудзь адставаў, група спынялася, усе выконвалі фізічныя практыкаванні накшталт аджыму ад зямлі.

Яшчэ мне вельмі спадабаўся метад, якім моладзь даносіла да сустрэчных мэту гэтага занятку: кароткія і дакладныя фразы пра тое, што алкаголь і тытунь не для нас, бо мы хочам, каб нашы дзеці былі здаровыя. З такім радасным настроем пачаўся ў нашым горадзе новы год для многіх людзей.

**Ядвіся РАЙ.**

